© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

# Газета для вас

18 лютага 1998 года
СЕРАДА
№ 13 (93)
Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы — 1000 руб.
Цана ў розніцу — 1500 руб.

ІВАЦЭВІЧЫ - БАРАНАВІЧЫ - БЯРОЗА




## МЯСЦОВЫ

### Без кампрамісаў

**ІВАЦЭВІЧЫ.** На агульным сходзе супрацоўнікаў раённага аддзела ўнутраных спраў, на якім падведзены вынікі работы за мінулы год, асабліва падкрэслівалася, што ў барацьбе са злачыннасцю, у справе абароны правоў і свабод грамадзян не можа быць ніякіх кампрамісаў.

Мінулы год выдаўся нялёгкім: узровень злачыннасці застаецца высокім. Прычын тут шмат: сацыяльна-эканамічныя ўмовы, нізкая эфектыўнасць прафілактычнай работы, поўны штыль у рабоце грамадскіх фарміраванняў.

Радуе, што злачынцы не застаюцца беспакаранымі. Летась у раёне ўчынена 407 злачынстваў, 376 з іх выкрыты, што складае 90,5 працэнта. Гэта адзін з лепшых паказчыкаў у вобласці.

Аднак да поўнай і канчатковай перамогі над сіламі зла яшчэ далёка. Таму, гаварылася на сходзе, расслабляцца супрацоўнікам пакуль няма падстаў. Наадварот, жорсткая дысцыпліна, паляпшэнне стылю і метадаў работы, павышэнне яе эфектыўнасці дапамогуць умацаваць законнасць і правапарадак у раёне, вывесці на чыстую ваду злачынныя элементы.

Сход прайшоў з удзелам пракурора раёна Т. А. Стасевіч, старшыні нараднага суда А. М. Вабішчэвіча, начальніка аддзела грамадскай бяспекі і прафілактыкі абласнога ўпраўлення ўнутраных спраў В. С. Жывіцкага і першага намесніка начальніка ўпраўлення МУС па незаконных абарачэннях наркатычных сродкаў М. М. Лукашова.

### Камп'ютэр — у сельскай школе

**БАРАНАВІЧЫ.** Гарадскіх школьнікаў цяпер не здзівіш камп'ютэрам. Амаль ва ўсіх школах абсталяваны і дзейнічаюць камп'ютэрныя класы. Кібернетыка рушыла і ў сельскія школы. Першы клас уведзены ў вёсцы Застрынне. Пакуль сюды будуць прыязджаць вучні бліжэйшых населеных пунктаў для навучання асновам праграміравання. РАА і райвыканкам намецілі камп'ютэрызаваць яшчэ некалькі школ. На працягу 2—3 гадоў такія класы з'явяцца ва ўсіх базавых школах.

*ФОТАСЮЖЭТ*

## НАРЫХТАВАЎ ... УРАГАН



*ІВАЦЭВІЧЫ. Целяханскі лясгас. Тут паблізу Вулька-Целяханскага возера размешчана разгрузачна-пагрузачная пляцоўка. Нягледзячы на перапады тэмпературы паветра, не спыняецца вывазка драўніны з месцаў, дзе прайшоўся мінулым летам ураган. А ўжо адсюль, з пляцоўкі, вывозяць драўніну спажыўцы ўласным транспартам. У той зімовы дзень, калі наш карэспандэнт пабываў там, пад пагрузкай знаходзіліся лесавозы з Баранавіч, Пінска, Івацэвіч. Штодня забіраюць з пляцоўкі не менш 200 кубаметраў дзелавой драўніны.*

*НА ЗДЫМКУ: ідзе пагрузка драўніны.*

*Фота А. ГАНЧУКА.*

### У мэтах заахвочвання

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Хоць фінансавыя магчымасці раённага савета Беларускага таварыства інвалідаў абмежаваныя, аднак знайшліся сродкі, каб адзначыць лепшыя пярвічныя арганізацыі за плённую работу ў мінулым годзе. Грашовыя прэміі ўручаны Целяханскай (былы старшыня М. Д. Леановіч), Быценскай (старшыня У. Л. Сакалоў) і Даманаўскай (старшыня А. А. Козыр) пярвічным арганізацыям, якія па ўмовах палажэнняў занялі першыя тры месцы.

Зазначым, што такія меры матэрыяльнага заахвочвання пярвічак у Івацэвіцкім райсавеце практыкуюцца ўжо некалькі гадоў запар. У іншых раёнах вобласці пра іх забыліся і не прымяняюць.

### Выбираемся из ямы?

**БАРАНОВИЧИ.** Из 30 крупных промышленных предприятий города 27 добились увеличения объема производства продукции по сравнению с прошлым годом в среднем на 18 процентов. Благодаря этому в бюджет города поступило за январь около шести миллиардов рублей в виде налогов.

Выбираемся из ямы экономической пропасти. План, как говорят, пошел. А зарплата — не везде. На швейной фабрике, которая выполняет заказы на экспорт, заработок швей, закройщиков, механиков порой недотягивает до 800 тысяч. Из-за этого предприятие потеряло сотни высококвалифицированных специалистов. И вряд ли они вернутся при наборе полного портфеля заказов. Такая ситуация на других предприятиях легкой промышленности.

Зарплата в городе стала таким нестабильным, неуправляемым фактором, что сторожа получают по 400 тысяч рублей и по 3 миллиона, уборщицы — в три раза больш опытнейших вязальщиц и т. д.

Потому и неодолимо встает необходимость и городским властям, и руководителям предприятий обратить, наконец, внимание на оплату труда согласно объему выполненной работы и качеству продукции. Или собственная обеспеченность мешает позаботиться о рядовых тружениках?

### Народны ўніверсітэт

У Брэсце пачаў сваю працу народны ўніверсітэт, арганізаваны фондам "Беларуская перспектыва" (В. Галубеў, У. Анцулевіч, В. Івашкевіч, А. Фядута і інш.). На працягу значнага шэрагу суботаў і нядзеляў слухачы змогуць на тэарэтычных і практычных занятках папоўніць свае веды ў эканоміцы, паліталогіі, сацыялогіі, гісторыі ад дасведчаных, вядомых спецыялістаў у гэтых галінах са сталіцы. У суботу 7 лютага адбыліся ўводныя заняткі. Акадэмік І. Нікітчанка распавёў пра стан сельскай гаспадаркі і прапанаваў яе магчымыя рэформы. А. Станкевіч параўнаў правядзенне эканамічных і палітычных рэформаў у Польшчы, Чэхіі, Венгрыі, Эстоніі і Беларусі. Л. Грязнова прааналізавала становішча беларускіх жанчынаў у грамадстве, сп. Чарноў прапанаваў свой погляд на ўсталяванне грамадзянскай супольнасці на Беларусі. Сп. Сосна нагадаў аб гісторыі беларускай дзяржаўнасці. Інфармацыю аб універсітэце можна атрымаць у рэдакцыі.

### А мо дачакаемся?

**БЯРОЗА.** Так і не наведаў Бярозаўшчыну Прэзідэнт. Хоць да прыезду рыхтаваліся і чакалі. Нават хлеб патаннеў — 5800 рублёў за бухану.

### Даючы — засцерагайцеся...

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Па шматкватэрных дамах райцэнтра ходзяць жанчыны (адна — з дзіцём прыкладна 5—6-гадовага ўзросту). Пабіраюцца. Тлумачаць — прыехалі з Малдавіі, пацярпелі ад паводкі. Тварамі сапраўды нагадваюць нашых паўднёвых суседзяў, але вельмі ж добра валодаюць рускай мовай. Не дзвядзі, Госпадзі, упікаць таго, хто стаіць з працягнутай рукою, але ж вельмі падазрона, што жанчыны просяць толькі грошы. Выкарыстоўваецца просты псіхалагічны прыём: адна рука працягваецца для міласціны, а ў другой адкрыта трымаюцца ўжо сабраныя 20.000 купюры. Ці не цыганскага роду ды бліжняга, як гаворыцца, прыходу гэтыя малдаванкі? Калі так, то асцерагайцеся, людзі: ад міласціны да крадзяжу можа заставацца адзін крок...

### Вяртаемся да... мінулага

**ІВАЦЭВІЧЫ.** У лютым у Івацэвічах прайшоў сход раённага актыву, на якім ішла гаворка пра задачы выканаўчых органаў, гаспадарчых кадраў і працоўных калектываў па павышэнні эфектыўнасці і якасці работы народнай гаспадаркі раёна ў 1998 годзе.

Пра "стабілізацыю" ў сельскай гаспадарцы і прамысловасці летась наша газета ўжо пісала. На сходзе раённага актыву вырашыла замацаваць сёлета ранейшую "стабілізацыю". А каб падварушыць працоўныя калектывы на ўдарную работу, вырашана правесці ў іх сходы. А на працягу гэтага года пройдуць працоўныя і творчыя справаздачы прадпрыемстваў горада Івацэвічы. Ужо складзены і графік правядзення такіх мерапрыемстваў.

Цяпер кожны тыдзень старшыні выканкамаў мясцовых Саветаў павінны будуць трымаць справаздачы аб праведзенай рабоце на апаратных нарадах у старшыні райвыканкама. Такім чынам узмацняецца кантроль за дзейнасць органаў улады на месцах.

Словам, раённы сход актыву і па форме, і па зместу паказаў, што і тут вяртаемся да мінулага — тыя ж сходы, суботнікі, агляды.

*АЛЛО, РЕДАКЦИЯ?*

## Если вы работаете на компьютере...

*— Специалисты разных профессий сегодня частично или полный день работают на компьютерах. В связи с этим прошу ответить, полагаются ли таким работникам дополнительные льготы: доплата за вредность, выдача бесплатного молока, предоставление дополнительного отпуска, должны ли быть ограничения в продолжительности рабочего дня.*

*Иван Иванович (г. Ивацевичи).*

Доплаты к тарифным ставкам и должностным окладам за работу в неблагоприятных условиях труда устанавливаются по результатам аттестации рабочих мест по условиям труда (в зависимости от степени вредности), которая проводится в соответствии с Порядком проведения аттестации рабочих мест по условиям труда, утвержденным постановлением КМ РБ от 2 августа 1995 г. № 409 и Методикой проведения аттестации рабочих мест по условиям труда (постановление Минтруда РБ от 4 сентября 1995 г. № 74).

Согласно Списку производств, цехов, профессий и должностей с вредными условиями труда, работа в которых дает право на сокращенную продолжительность рабочего времени и дополнительный отпуск (постановление Госкомтруда РБ от 29 июля 1994 г. № 89), работникам, постоянно работающим на вычислительных машинах, предоставляется 6 дней дополнительного отпуска. При этом право на данный отпуск имеют все работники независимо от наименования их профессий и должностей, занятые на всех типах современной вычислительной техники (суперЭВМ, большие ЭВМ, миниЭВМ, микроЭВМ).

Для работников, работающим на ЭВМ, предусмотрены регламентированные перерывы. В соответствии с особенностями трудовой деятельности работников и характером функциональных изменений со стороны различных систем организма в режиме труда, кроме обеденного перерыва, вводятся дополнительные два-три регламентированных перерыва длительностью 10 минут каждый. Так, при 8-часовой смене с обеденным перерывом через 4 часа дополнительные регламентированные перерывы предоставляются через 3 часа работы и за 2 часа до ее окончания.

Режим труда и отдыха операторов, работающих с видеодисплейными терминалами, должен зависеть от характера выполняемой работы: при вводе данных, редактировании программ, чтении информации с экрана непрерывная продолжительность работы с ВДТ не должна превышать 4-х часов при 8-часовом рабочем дне; через каждый час работы необходимо вводить перерыв на 5—10 минут, а через 2 часа — на 15 минут.

В целях предупреждения профессиональных заболеваний работники должны проходить обязательные предварительные при поступлении на работу и периодические медицинские осмотры.

### Добры старт

**ІВАЦЭВІЧЫ.** У мінулым годзе наша газета пісала аб справах аўтамабілістаў аўтапарка № 14. Адзначалася, што калектыў знаходзіцца ў цяжкім фінансавым стане, аўтобусны парк не абнаўляецца і нават рамантаваць усе машыны не хапае сродкаў. Таму ўсе надзеі ўскладаліся на сёлетні год. Так, за студзень грузаперавозкі і перавозкі пасажыраў узраслі ў параўнанні са студзенем 1997 года адпаведна на 30,8 і 23 працэнты.

Ці вытрымае калектыў узяты добры старт, пакажа час.

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



*Старшыня праўлення калгаса – чалавек заўсёды заняты. І гэта зразумела – вялікі аб'ём работы, вялікая адказнасць. Трэба пабываць на фермах, у брыгадах, у майстэрні, там, дзе працуюць людзі. Да таго ж выклікаюць у райцэнтр, а часта і самому неабходна пабываць там па розных справах.*

*Што ж тычыцца старшыні калгаса імя Куйбышава Івана Аляксандравіча МАРЧУКА, то і ён у той перадапошні студзеньскі дзень вельмі спяшаўся, чакалі яго неадкладныя гаспадарчыя справы і ў першую чаргу калгасны справаздачны сход. Але наш карэспандэнт паспеў з ім пагутарыць.*



КОЛА ДУМАК

# СТАРШЫНЁЎСКІ ХЛЕБ НЕ ПРОСТЫ

**— Адзін мой знаёмы старшыня калгаса, які доўгі час працаваў на гэтай пасадзе, неяк сказаў мне ці то жартам, ці то ўсур'ёз: таму, хто больш як дзесяць гадоў папрацаваў на пасадзе старшыні калгаса, ужо пры жыцці трэба ставіць помнік. Як бы Вы, Іван Аляксандравіч, прарэагавалі на гэта выказванне?**

— Я ўпаўне сур'ёзна адношуся да гэтых слоў. Той, хто прэцаваў на пасадзе старшыні калгаса, ведае, колькі сіл, наогул здароўя патрэбна, каб спраўляцца са сваёй работай. Можа, помнік – гэта гучна сказана, але нейкі стымул для далейшай плённай працы павінен быць, асабліва маральны.

**— А колькі ж гадоў Вы аддалі ўжо старшынёўскай рабоце?**

— Да помніка, пра які Вы кажаце, я трохі яшчэ не дацягнуў. А калі сур'ёзна, то не кожны чамусьці разумее, што хлеб старшынёўскі не просты, ён даволі цяжкі і складаны. Таму ўтрымацца доўга на гэтай пасадзе можа не ўсякі.

**— Выходзіць, што Вы, Іван Аляксандравіч, нягледзячы на цяжкасці і пастаянныя праблемы, з'яўляецеся шчырым прыхільнікам далейшага існавання калгасаў. Ці не так?**

— Я прыхільнік развіцця і існавання розных форм уласнасці ў сельскай гаспадарцы. Няхай кожная з іх (калгас, акцыянернае таварыства, фермерства) сваёй дзейнасцю дакажа права на існаванне. Такое становішча ва ўсім свеце. Без здаровай канкурэнцыі не можа быць і высокай прадукцыйнасці працы.

**— А як жа Вы летась папрацавалі? Што Вам удалося, а што не?**

— Мінулы год для працаўнікоў калгаса і для мяне, як кіраўніка, быў, бадай, самым цяжкім. Ураган, які пранёсся ў чэрвені, нарабіў многа бяды і на палях, і на фермах. Шмат сродкаў затрацілі на рамонт жывёлагадоўчых і іншых памяшканняў. Дапамагла і дзяржава. Самі мы не справіліся б з такім аб'ёмам работ. Гэта, па-першае. А па-другое, кліматычныя ўмовы года не паспрыялі хлебаробам. Ураджай некаторых збожжавых і караняплодаў аказаўся ніжэйшым, чым мы планавалі. Хаця і кажуць, што дрэнныя гаспадары заўсёды на штонебудзь ківаюць, што перашкаджае. Усё ж такі фактар нельга скідаць з рахунку.

Жыта, напрыклад, намалацілі па 29,7 цэнтнера з гектара, амаль на тры цэнтнеры менш, чым у 1996 годзе. Затое нас выручылі пшаніца і ячмень. Азімай пшаніцы сабрана з гектара 51,7, а яравой – па 25,1, ячменю – па 47,7 цэнтнера. Цукровых буракоў накапалі па 276,6 цэнтнера з гектара.

Праўда, бульба слаба ўрадзіла. 119,6 цэнтнера – такі канчатковы вынік.

**— Хоць Вы і незадаволены вынікамі працы ў раслінаводстве, але ж яны сведчаць аб тым, што не ўсё ў вас так і дрэнна. А ад гэтага, вядома, напрамую залежыць і развіццё жывёлагадоўлі. Чым парадавалі летась работнікі ферм?**

— На мой погляд, яны папрацавалі нядрэнна. Надоена на адну карову па 3062 кілаграмы малака. А прывага адной галавы жывёлы ў суткі склала 473 грамы. Гэта лепшы паказчык у раёне.

**— І у раслінаводстве, і ў жывёлагадоўлі ў Вас ёсць пэўныя здабыткі. Значыць, за фінансавае становішча можна не трывожыцца. Ці не праўда, Іван Аляксандравіч?**

— Хацелася б, каб гэта была праўда. Але ж на самай справе наша фінансавае становішча незайздроснае. І пагаршаецца з кожным днём.

**— У чым жа прычына, Іван Аляксандравіч?**

— Прычына адна – непарытэт цэнаў. Малако, збожжа, мяса дзяржава купляе па такіх цэнах, што не спрыяе развіццю гэтых галін, і мы не можам ніяк выпутацца з даўгоў. А ў сваю чаргу цэны на энерганосьбіты, на гаруча-змазачныя матэрыялы, сельгасмашыны такія, што мы не ўсілах іх набываць. Каб купіць, напрыклад, камбайн «Дон», нам трэба прадаць 1500 тон збожжа. І пакуль цэнавая палітыка ў сельскай гаспадарцы не зменіцца, мы не зможам цвёрда стаць на ногі, хаця нашы калгаснікі і стараюцца працаваць з душой.

**— Гэта і прыкметна. А яшчэ я заўважыў, што ў Вас, як ні ў кога іншага, шмат працуе моладзі. Скажыце, калі ласка, Іван Аляксандравіч, чым калгас прываблівае маладых людзей?**

— Мы проста даём ім работу, па магчымасці забяспечваем жыллём. А пенсіянераў адпраўляем на заслужаны адпачынак. Думаю, гэта справядліва. Наогул працуючых пенсіянераў у нас няма. Заработную плату стараемся выдаваць без затрымак. Сярэдні заробак калгасніка летась склаў 1300 тысяч рублёў. Разжывемся – будзе больш.

**— Ці ёсць у вашай гаспадарцы нейкая іншая крыніца даходаў?**

— Такой крыніцай у нас з'яўляюцца сталярны і блочны цэхі, дзве піларамы. Заказаў тут пакуль што дастаткова, каб працаваць на поўную сілу.

**— Як Вы, Іван Аляксандравіч, адносіцеся да фермерства?**

— Станоўча. Фермер павінен быць не толькі спецыялістам сельскай гаспадаркі, але і дбайным гаспадаром. Тады зямля аддзячыць за ўсе клопаты пра яе. На тэрыторыі нашага калгаса два фермеры. Адзін з іх, на мой погляд, бесперспектыўны, а другі па крайняй меры стараецца працаваць. Агульную мову між сабой пакуль што знаходзім.

**— На нядаўнім калгасным справаздачным сходзе Вы называлі сваіх перадавікоў. Хацелася б, каб і ў нашай газеце паявіліся прозвішчы лепшых працаўнікоў...**

— Многа ў нас сумленных, працавітых людзей. У ліку іх механізатары У. С. Рак, П. М. Малінчык, М. М. Галавач, даяркі В. Р. Куратнік, А. Я. Латышэвіч, Р. В. Капыціч, даглядчыкі жывёлы Н. В. Мялік, М. В. Борсук, Г. С. Мялік, брыгадзір М. Р. Крынко і многія іншыя.

**— І на заканчэнне, Іван Аляксандравіч. Аб чым думаецца ў гэтыя зімовыя дні?**

— Галоўнае – што трэба зрабіць, каб палепшыць жыццё людзей. У нашым калгасе працуе 349 чалавек. Жыве ў гаспадарцы 530 калгасных пенсіянераў. І працуючыя, і пенсіянеры маюць права на дастойнае жыццё. Аб гэтым і думаецца ў апошнія зімовыя дні.

**— Дзякуй, Іван Аляксандравіч, за размову. Хай спраўдзяцца сёлета Вашы спадзяванні і задумкі.**

*Гутарыў* *С. КАЖАДУБ.*

◆ ◆ ◆

*НА ЗДЫМКУ: старшыня праўлення калгаса імя Куйбышава І. А. Марчука.*

*Фота А. ГАНЧУКА.*

ТАКОЕ ВОСЬ ЖЫЦЦЁ

# „Будзе дрэнна"

*З 1 красавіка гэтага года ўсе таксі павінны будуць мець таксометры, а з другога паўгоддзя – электронныя лічыльнікі. Такое рашэнне прыняў Дзяржаўны падатковы камітэт і Міністэрства транспарту і камунікацый.*

Як жа прарэагавалі на гэтае новаўвядзенне вадзіцелі прыватных таксі ў Івацэвічах? «Будзе дрэнна», — сказаў адзін з іх. Гэта ж пацвердзілі і другі. Ад падрабязных каментарыяў адмовіліся. Але і без іх зразумела, што ўсе насцярожана ставяцца да такога рашэння, бо гэта ж будзе своеасаблівы кантралёр дзейнасці вадзіцеля.

У іншых гарадах і райцэнтрах рэспублікі прыватнікі-возчыкі за адзін кіламетр бяруць з пасажыраў ад васьмі да дзесяці тысяч рублёў. У Івацэвічах, напрыклад, пра цвёрдыя тарыфы не хочуць гаварыць. Усё ж вядома, што днем можна крыху танней дамовіцца з вадзіцелем, а вось вечарам і ноччу цэны ўзрастаюць у паўтара—два разы.

І яшчэ. Як паведамлялася ў друку, тыя ж таксометры каштуюць нямала – ад 220 да 250 долараў ЗША. Як бачым, грошы па сённяшніх мерках значныя. Не кожны вадзіцель адразу ж і можа выкласці такія грошы. Да таго ж і за ўстаноўку таксометраў трэба плаціць і потым за абслугоўванне іх.

Дапусцім, вадзіцель устанавіў таксометр, выехаў на лінію. Але ж ці будзе новаўвядзенне стымулам у рабоце вадзіцеляў? На гэтае пытанне пакуль што ніхто не бярэцца адказаць. Час пакажа, што выгадна, а што – не. Пакуль ясна адно: клопатаў і расходаў прыватнікам значна прыбавіцца.

*С. РЫГОРАЎ.*

АКТУАЛЬНА

*План «баявых дзеянняў» па барацьбе з вірусам грыпу і вострых рэспіраторных захворванняў распрацаван Івацэвіцкім цэнтрам гігіены і эпідэміялогіі. Існуе комплексны план прафілактычных мерапрыемстваў супраць гэтай інфекцыйнай немачы, разлічаны да 2000 года. Згодна з ім, як толькі ў раёне ўсталёўваецца перадэпідэмічная абстаноўка, узмацняецца гігіенічны кантроль за дзіцячымі ўстановамі, аб'ектамі сацыяльна-культурнага прызначэння і прамысловымі прадпрыемствамі.*

# Грып не пройдзе

*Расказвае загадчык эпідэміялагічнага аддзела цэнтра Васіль Васільевіч ЧЫЖ:*

— Па прагнозах медыкаў, эпідэмія грыпу пачалася напрыканцы студзеня—пачатку лютага. Дзякуй Богу, яны не спраўдзіліся. Цяпер прагноз іншы: успышка магчыма ў канцы лютага—напачатку сакавіка. І гэта бліжэй да ісціны. Грып гуляе цяпер у Мінску, а мы ведаем, што любая эпідэмія пачынаецца у буйных гарадах, дзе вялікая скучанасць насельніцтва і ступень рызыкі захварэць тут даволі высокая. Потым эпідэмія, як саранча, распаўзаецца па ўсёй рэспубліцы.

Сітуацыя намі кантралюецца. На сённяшні дзень захварванні на грып і вострыя рэспіраторныя хваробы не перавышаюць эпідэміялагічнага парога. Кожны тыдзень з гэтым дыягназам рэгіструецца 120—160 чалавек. Калі ж такіх хворых будзе ў 4—5 разоў болей, тады можна гаварыць, што пануе эпідэмія. Калі вам цікава, дык скажу, што апошнія эпідэміі грыпу паралізавалі наш раён у 1981 і 1988 гадах. Тады кожны тыдзень рэгістраваўся гэты дыягназ у больш чым 1200 чалавек.

Мы сочым, каб шырока праводзіліся санітарна-гігіенічныя і процівэпідэмічныя мерапрыемствы. Найстражэйшыя патрабаванні прад'яўляем да работнікаў дзіцячых дашкольных устаноў, паколькі дзіцячы арганізм вельмі ўспрымальны да рознага кшталту інфекцый. Згодна з нашымі рэкамендацыямі, у садках і школах трэба падтрымліваць нармальны тэмпературны рэжым, сачыць за вільготнасцю паветра і рабіць яго абеззаражванне, часцей праветрываць пакоі, узбагачаць стравы вітамінамі С (рабіць вітаміназацыю).

**Якім жа арсеналам лекавых сродкаў валодаюць аптэкі? Аб гэтым расказала загадчыца Івацэвіцкай аптэкі № 9 Людміла Васільеўна ВАБІШЧЭВІЧ:**

— Мы ажыццявілі масавы закуп розных прэпаратаў, узмацняючых імунітэт да грыпу і іншых вострых рэспіраторных захворванняў. У нас дастаткова полівітамінаў і сываратак, маюцца некаторыя мазі. У прафілактычных мэтах мы рэкамендуем прымяняць процівагрыпозныя комплексы, а таксама новы прэпарат антыгрыпкапс, якіх хапае.

Хацелася б заўважыць, што бескантрольнае прымяненне лекавых сродкаў можа прывесці да самых сур'ёзных наступстваў. Да прыкладу, нястрыманае прымяненне парацэтамола, уваходзячага ў састаў шырока разрэкламаванага лякарства «Панадол», на думку некаторых медыкаў, прыводзіць да цяжкіх ускладненняў на печані.

Наглядзеўшыся назойлівай тэлерэкламы, людзі просяць: «Дайце аспірын UPSA». А што гэта такое? Гэта аспірын плюс вітамін С. І таго, і другога ў нас маецца ў дастатковай колькасці.

Хай лепш людзі не хварэюць. Ну, а калі немач валіць з ног, фармацэўты могуць прапанаваць шэраг прафілактычных і лячэбных прэпаратаў.

Што ж раяць медыкі раённай бальніцы чытачам нашай газеты? Па-першае, не займацца самалячэннем, адчуваеце недамаганне – звяртайцеся ў паліклініку. Каб папярэдзіць грып, варта ўключыць у свой рацыён як мага больш садавіны і гародніны – галоўных пастаўшчыкоў вітамінаў. І ўзяць за правіла кожны дзень ужываць часнык і цыбулю.

Калі вы захварэлі на грып, трэба як часцей піць гарачы чай з лімонам ці малінавым варэннем, а таксама цёплае малако з мёдам (1 сталовая лыжка на 1 шклянку).

Прамывайце кожны час поласці носа і горла настоем цыбулі з мёдам, узятым у адносінах 1:1, ці растворам кухоннай солі, соды і ёду. Раствор уцягвайце носам, а выдаляйце праз рот.

Закапвайце ў нос па 5 кропляў свежага соку алоэ праз кожныя 2-3 гадзіны на працягу 2-3 дзён.

Грып, як кажуць медыкі, любіць, каб з ім "паляжалі" ў ложку. Хворы чалавек — небяспечны для іншых, ад яго лёгка могуць схапіць хваробу тыя, хто побач з ім.

Будзьце здаровыя!

*А. ЛАЎРАНЮК.*



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



ТОЧКА ЗРЕНИЯ

# Запад отгораживается от Беларуси польским законом об иностранцах

***Официальный Минск продолжает в достаточно резкой форме комментировать введение в действие Польшей нового закона об иностранцах, усложнившего въезд на ее территорию среди некоторых прочих и белорусских граждан. МИД Беларуси вручил польской стороне уже несколько нот, в которых содержатся протесты в связи с односторонним введением новых правил пересечения белорусско-польской границы. Посол Республики Беларусь в Польше Виктор Бурский отозван в Минск для консультаций.***

Новый закон об иностранцах был принят в Польше «не вчера», а еще летом 1997 года. Практически сразу об этом были поставлены в известность дипломатические представительства в Варшаве, в том числе и белорусское посольство. Однако до января 1998 года, когда закон начал действовать, белорусские власти по этому поводу не проявляли особого беспокойства. В чем же причина? Возможно, внешнеполитическое ведомство Беларуси и его посольство в Варшаве попросту «проспало», и введение новых правил застало их врасплох. По другой версии, соответствующие белорусские службы не удосужились ознакомиться с новым законом и не рассчитывали, что порядок въезда может быть усложнен, а не упрощен страной, председательствующей в ОБСЕ. Руководство нашей республики заявило о намерении обратиться с протестом именно в Организацию по безопасности и сотрудничеству в Европе, поскольку, как отметил глава белорусской дипломатии И. Антонович, действия польских властей являются «нарушением хельсинских соглашений».

Проблемы белорусско-польских отношений руководство белорусского МИД намерено обсудить во время визита в Минск министра иностранных дел Польши Бронислава Геремека, который, однако, приедет в Беларусь в качестве председателя ОБСЕ.

С момента введения новых правил поток граждан Беларуси, желающих выехать в Республику Польша, по некоторым данным, уменьшился на 25 процентов. Россия, чьи граждане также пострадали в результате введения новых правил въезда в Польшу иностранцев, уже с 1 марта вводит адекватные меры. Поскольку на уровне президентов России и Беларуси недавно подписано соглашение о координации внешнеполитической деятельности, можно ожидать в ближайшее время введения в отношении поляков аналогичных мер и со стороны белорусских властей. Косвенно подтвердил это и Иван Антонович, заявив, что по польской проблеме белорусское руководство будет «тщательно советоваться» с Россией и занимать солидарные с этим союзным государством позиции.

Официальный Минск забросал польскую сторону нотами протеста, однако, неспроста. В конце концов, ужесточение новых правил въезда – хороший повод высказать Польше свое неудовольствие некоторыми ее действиями, в частности – проведением на территории соседнего государства семинаров с участием белорусской оппозиции.

Не оставил без комментариев ситуацию с осложнением белорусско-польских отношений и президент Беларуси Александр Лукашенко. Как «недружественный поступок по отношению к соседнему государству» расценил он, совершая недавно поездку в Брестскую область, введение Польшей закона об иностранцах. Глава белорусского государства выразил недоумение в связи с подобными действиями руководства Польши, однако тут же и назвал причину этих поступков. «Это своеобразное давление Запада через Польшу на Беларусь за ту политику, которую Беларусь сейчас проводит», — заявил в одном из интервью Белорусскому телевидению Александр Лукашенко. Аналогичную мысль высказал в интервью газете «Советская Белоруссия» от 6 февраля и председатель КГБ Беларуси Владимир Мацкевич.

Безусловно, подобные заявления не лишены оснований. Однако, надо заметить, что именно нынешние власти Беларуси сделали все для того, чтобы наше государство воспринималось Западом территорией беззакония и антидемократии, страной, где грубо нарушаются права человека и основные свободы граждан. Не секрет также, что страны СНГ, и Беларусь в их числе, — основные экспортеры на Запад преступности. Логично, что западные страны отгораживаются от нас всеми возможными способами.

Возможно, судьба белорусско-польских отношений в некоторой степени прояснится после приезда в Минск министра Геремека. Впрочем, надежды на то, что польский закон об иностранцах будет изменен, практически нет. В любом случае, решение проблемы, выходящей далеко за рамки пограничной, зависит не от Польши, а от Беларуси; точнее от дальнейшей политики белорусских властей. Возможно, в отношении Беларуси и в дальнейшем будет проводиться политика изолирования. Западные страны и международные организации продолжают заявлять, что только построение истинно демократического общества в Беларуси поможет ей интегрироваться в общую Европу. Заявления же белорусских властей о том, что Беларусь и так находится в самом центре Европы, вряд ли могут утешить граждан страны, значительной части которых для элементарного выживания необходимы «челночные» рейсы за пределы Родины.

*Андрей СЕРЕДА, журналист. (БелаПАН).*

НА СЕЛЬСКИХ ПЕРЕКРЕСТКАХ

# Хуторяне закапываются

Мелиорация, губительному воздействию которой в свое время был подвергнут каждый второй гектар заболоченных земель Беларуси, сейчас начинает сказываться. Сохнут лесные масивы, торфяники превращаются в пыльные пустыни, уходит все глубже под землю вода. На окраинах Барановичей владельцы домов за последние 10--20 лет углубили свои колодцы на 5--10 метров. В деревнях, где основным источником питьевой воды являются только колодцы, и того хуже.

Хутор Копани, где проживают в основном старики, со всех сторон окружен мелиоративными каналами. И копают старики колодцы, денно и нощно их углубляют. Пенсионер Михаил Карпович "прошел" два метра, а зачерпнуть может не больше полведра. Дедушки и бабушки отдают последние гроши из своей мизерной пенсии городским "копальщикам".

Так и закапываются в землю хуторяне (да и не только они) по вине горе-мелиораторов. Инспекция по экологии и другие районные организации не замечают усыхания колодцев, которое создает уже большую социальную проблему.

*П. НАГНИБЕДА.*

# Для дома, для семьи, для души...

НАШ КАЛЯНДАР

## 18 февраля — Агафья Коровятница

Скотница, голендуха (голодуха). К этому дню в неурожайные годы кончались корма — по крестьянским дворам ходила коровья смерть, мор.

Мученица Агафья почиталась среди крестьян как покровительница домашнего скота. *"На Агафью коровья смерть по селам ходит"*. По поверью, чтобы не пускать ее во двор, крестьяне хлевы убирали старыми лаптями, пропитанными дегтем. От болезни скота читали заговоры:

*"Помяни, Господи, Царя Давида, матери Елены до дернавина житья. Как белая березонька стоит веки до веки не тронется, не ворохнется, так бы и телятка жило веки, вовеки не дрогнулось, не ворохнулось. Аминь".*

ВАШЕ ЗДОРОВЬЕ

## Из старинных лечебников

С незапамятных времен в народной медицине применяли редьку.

Тертая редька с успехом заменяла горчичники. Эту же кашицу использовали в качестве компрессов при ревматизме, воспалениях мышц, радикулите. И даже при параличе языка давали пожевать тертую **редьку.**

Сок редьки втирали в голову при облысении, использовали как мочегонное при камнях в почках и мочевом пузыре.

Одну часть свежего сока редьки мешали с одной частью пива или-меда и пили, начиная с 1/4 стакана, постепенно увеличивая объем до стакана, раз в день перед едой. Курс лечения -- 2-3 недели. Повторяли через месяц. Такое средство использовали при камнях в желчном пузыре и болях в печени.

**Надо помнить, что при тяжелых формах болезни сердца, при язве желудка и двенадцатиперсной кишки, при болезнях кишечника употреблять редьку нельзя!**

При сильном кашле брали очищенную редьку, натирали на терке, отжимали сок и смешивали его с 1 столовой ложкой меда. Принимали по 2 столовых ложки смеси за 20 мин. до еды 3-4 раза в день.

## Лекарства рядом с вами

**Профилактические народные средства при больных почках.** Настой листьев черной смородины: 2-3 столовые ложки листьев на два стакана кипятка. Принимать в течение суток. Почечные колики лечат отваром овсяной соломы. Березовый сок натощак по стакану три раза в день. Утром натощак рюмку сока черной редьки. Настой семян моркови, отвар из льняных семян, настой кукурузных рылец и, конечно, отвар из листьев и корней петрушки. Настой из лука: наполнить полбутылки порезанным луком, залить сверху водкой, настоять в теплом месте десять дней. Потом пить перед едой по 1-2 ложки, но не более двух раз в день.

Как видите, лекарства валяются у вас под ногами. Стоит только нагнуться.

ПОЛЕЗНЫЕ СОВЕТЫ

## Овощеводу на заметку

Проращивать семена овощных культур перед посадкой в грунт удобно, используя пластиковую емкость из-под майонеза. Семена раскладывают на промокательной бумаге или салфетке, уложенной в 2-3 слоя на крышке, и укрывают также несколькими слоями салфетки. Ватный фитиль, опущенный в емкость через отверстие, проделанное в крышке, обеспечивает равномерное и экономное поступление влаги к семенам. Подливать воду в емкость нет надобности.

Если семена обработать раствором хлористого кальция (можно взять аптечный кальцекс), то растение будет лучше переносить засуху.

Семена огурцов и помидоров (последние в 5%-ном растворе поваренной соли) предварительно проращивают и проводят отбор по длине корешка, степени развитости корневой системы. В дальнейшем о возможностях растения судят по рассаде.

ЭХ, НАМ БЫ ТАК

## На заработки в шведскую тюрьму

У сирот рухнувшего реального социализма, восточноевропейцев, судя по всему, входит в моду новый бизнес, позволяющий без риска разжиться твердой валютой: отсидка в шведской тюрьме. Дело в том, что на собственное горе шведы не только создали в своих исправительных учреждениях пансионный комфорт, но и выплачивают заключенным что-то вроде суточных, к которым за примерное поведение могут плюсовать и... премиальные. Словом, даже отсидев месяц, например, за управление автомобилем в нетрезвом виде, можно выйти на свободу не только с чистой совестью, но и с кругленькой по нашим понятиям суммой. А потому многие пассажиры следующего в Швецию парома хорошенько напиваются еще на судне, а затем выезжают в городок Истад и выписывают на своих авто издали заметные кренделя, ставя местную полицию перед неизбежным задержанием.

Кстати, шведское тюремное благоденствие делает, как утверждают, беспригрышной и контрабанду. Не поймают -- заработаешь на провозе товара, поймают-- заработаешь ту же сумму за время отсидки.

УЛЫБНИТЕСЬ

Муж неожиданно приходит домой, жена выбегает навстречу и говорит:

-- Милый, вынеси мусорное ведро.

Пока он отсутствовал, любовник успевает уйти. Приходит домой, и уже его самого у порога встречает жена:

-- Пока не разделся, вынеси мусор.

Он выносит мусор и думает: "Любовница такая умная, как здорово мужу мозги прокомпостировала, а моя дуреха целый день дома сидит и даже мусор не соизволила вынести".



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



ПРОВИНЦИАЛЬНЫЕ ИСТОРИИ

# От слова — до дела...

*"Вначале было слово", — говорит Библия. "Потом слова, слова, слова", — добавлю от себя.*

...Конец восьмидесятых. Раннее утро на колхозном дворе. Кирпичный домик с отвалившейся штукатуркой и выбитыми стеклами – тут проходит обычный наряд.

Заглянем внутрь. За обшарпанным столом, наклонившись над тетрадью, сидит бригадир и проверяет записи. Колхозницы-полеводы сидят вдоль стен на длинных лавах и, поджав ноги, ждут назначений. Шепчутся. Вдруг самая смелая не выдерживает:

— Вера! Почему нам за ту же работу и в том же объеме в этом месяце заплатили меньше, чем в прошлом?

Все стихают. Бригадир поднимает свои уставшие глаза. Ей самой до боли надоело все: нагоняи начальства, «бураки», которые без свар не поделишь, семейные проблемы, безденежье. Потом тихо говорит:

— Мария, перестань! У нас хозрасчет.

Женщины шумно завздыхали, понимающе закивали головами. Бригадир опять склоняется к своей тетради; вскоре всех распределяет на работы.

... Вечером одна из женщин меня допрашивала: кто «гэты» хозрасчет и «нашто ему нашы грошы?».

ХХХ

Вначале было слово. Его сказал Генеральный секретарь. Потом посыпались слова – секретарей поменьше рангом.

Если сегодня из нашей жизни выбросить этот нахлынувший за десятилетия словесный ком и людей, которые спекулируют на этой болтовне, то мы увидим, как мало изменилась наша жизнь.

Приедьте в любую деревню. Те же полумертвые колхозы, бурые безрадостные лица сельчан, председателев «уазик», вилы и грабли колхозника да вечные боты, бураки, самогонка, солома и квашеная капуста.

А по телевизору: консенсус, интеграция, федерация, конфедерация, инфраструктура, суверенитет, инфляция, плюрализм, дивиденды, дистрибьютер, стабилизация, референдум...

А ведь вначале было только одно слово. Простое слово – перестройка. Потом – слова, слова, слова.

ХХХ

Недавнее событие. До боли родной Ивацевичский вокзал, билетная касса. Готовлюсь купить билет на пригородный автобус, но вот из окошка кассир мне советует положить денег в два раза больше, потому как-де рейс коммерческий. С кассиром не спорю. Но мне интересно: произошло подорожание или нет?

Получается, что для моего кошелька – да, вообще – нет. Просто рейс такой вот, бяка, получается. Я вообще предлагаю повысить плату за поездку в 10 раз и, что самое главное, назвать их еще более непонятными для людей словами: маркетинговый рейс, брокерский, биржевой. Ну, а пассажирам, как тем женщинам-полеводам, услышавшим незнакомое слово, остается только головами закивать.

ХХХ

Выступает Президент. Со свойственным ему и только ему темпераментом ругает депутатов, грозится лишить всех прав чиновников, говорит, что он выступает за то, чтобы экономикой управляло государство...

Стоп! Что такое государство? Неодушевленный предмет не может совершать действия, управлять. Государство – это большие или меньшие, но аппараты чиновников. Значит, если говорить понятным слогом, Президент, ненавидя чиновников, выступает за то, чтобы у них было как можно больше власти и полномочий. Так за важным словесным умничаньем скрывается полный хаос мысли.

Обычно говорливый, Президент «забывает» уточнить, что он за то, чтобы чиновник решал, кому кредит выдать, а кому – нет, куда средства инвестировать, а куда не стоит; решал, когда сеять, косить, жать, пахать. Почему? Может и тут действует расчет: услышав незнакомое, непонятное слово, мы испуганно закиваем головами, что, мол, нам все «понятно»...

ХХХ

Ранняя весна 1994 года. Сельская хата. За столом сидят четверо односельчан и «режутся» в карты. За окном вечер. О чем-то своем болтает телевизор. Ведущий теленовостей заговорил о политике сближения России и Беларуси. Мужчины насторожились. Ныне канувший в неизвестность политик В. Шумейко: «Интеграция в федерацию возможна только на основе конфедерации...»

Вижу, как начинают напрягаться лица играющих. «Тьфу», — почти одновременно плюнули мужчины. Игра продолжилась: здесь в карты, там – в слова.

Что такое интеграция в федерацию на основе конфедерации, трудно разобрать даже со словарем. Я этим совсем не хочу сказать, что политикам надо говорить на «трасянцы», что не только некрасиво, но и бесперспективно: сию ниву давно освоил один любимчик так называемого простого народа. Я хочу сказать, что было бы лучше, если бы политики вообще молчали, как в брежневские времена, или говорили прямо, а не заигрывали с людьми.

«О, друг мой, Аркадий Николаевич, об одном прошу тебя: не говори красиво», — это высказывание тургеневского героя хотелось бы адресовать не только В. Шумейко.

ХХХ

Вот и про экономическую стабилизацию и экономический рост с подачи высшего руководства Беларуси не перестают утверждать все официальные белорусские СМИ.

Эти утверждения на фоне всеобщего сползания в нищету звучат то ли как безумство, то ли как издевательство – сразу не разберешь. Ну вот почему бы не сказать политикам своему любимому народу, что коль у нас стабилизация, то цены не растут, доллар застыл, колхозы вернули долги, бойко справляются с заказами, продукцию, что годами лежит на складах, покупатели стали «рвать яко волки»?

Да потому что смех поднялся бы на всей Беларуси! Ничего этого нет и в помине.

За минувший год цены выросли больше, чем на 60%, курс доллара поднялся в два раза. И никто не говорит об этом, но все так дружно обкатывают это новенькое словечко – стабилизация, как будто рост цен на продукты никакого отношения к экономике не имеет. Не анекдот ли!

Мне даже думается, что если вы возьметесь доказывать реальное положение дел в экономике, то, как последнее средство, вам достанут словарь и покажут, что есть, есть это слово.

Хотя бы в словаре.

— "...Аристократизм, либерализм, прогресс, принципы", – сколько иностранных... и бесполезных слов говорил уже упомянутый выше и так полюбившийся мне тургеневский герой. А сколько негодяев и мерзавцев скрываются и кормятся в непролазных дебрях этого словесного сухостоя.

... У меня на столе лежит словарь иностранных слов. Толстый и важный. Пробую на вес – тяжелый.

Как доля твоя, братец – белорус.

*К. ВАСИН.*

## Андрей Климов задержан...

На днях был задержан Андрей Климов, депутат Верховного Совета 13-го созыва, член специальной парламентской комиссии по правовой оценке деятельности президента Республики Беларусь А. Лукашенко. Он известен как предприниматель, занимающийся строительством. Кроме него, говорят, были задержаны также главный бухгалтер и заместитель председателя правления акционерного общества.

Андрей Климов пытался противиться задержанию, поскольку депутат Верховного Совета может быть арестован только с согласия Верховного Совета или на месте совершения преступления. Супругу Климова в машину затолкали насильно, хотя вскоре вернулись с ней для проведения обыска в квартире.

Андрей Климов и его предприятие в последнее время подвергались непрерывным проверкам. Более года назад один его заместитель был арестован. Заместителя выпустили, а через четыре дня после этого задержали самого А. Климова.

Симптоматично, что арест А. Климова произведен после заседания специальной комиссии, признавшей подготовленное ею заключение необходимым и достаточным юридическим основанием для начала политической процедуры импичмента президента А. Лукашенко.

Процесс упрятывания за решетку непокорных депутатов Верховного Совета 13-го созыва идет. Кто следующий?

*("Народная воля").*

СЕРДЕЧНО ПОЗДРАВЛЯЕМ



**Дорогую доченьку и сестру
ГОНЧАРУК
Зою Васильевну
из д. Бытень поздравляем с 30-летием.**

**Пусть все цветы к ногам твоим падут
Пусть звезды в изумруды превратятся.
Пусть все болезни, горести уйдут,
Пусть в этот день мечты твои свершатся.
Желаем, чтоб жизнь не кончалась,
Чтоб беда и печаль на пути не встречались.
Пусть солнце сияет за твоим окном,
Пусть радость и мир не покинут твой дом,
Пусть мимо проходят печаль и невзгоды...
Здоровья и счастья на долгие годы.
Чтоб жить-не тужить до ста лет довелось,
Пусть сбудется все, что еще не сбылось.**

*Мама, семья Саляник.*

КРЫМІНАЛ

## Украў, дзе раней працаваў...

Як правіла, злодзеі ідуць па здабычу туды, дзе раней працавалі або наведваліся і добра ведаюць, што і дзе дрэнна ляжыць. Так было і на гэты раз.

Грамадзянін С., жыхар вёскі Стайкі, працаваў у цэху піламатэрыялаў малога прадпрыемства «Мэбельшчык». Затым звольніўся і ўладкаваўся на работу на пілараму ў калгасе «Савецкая Беларусь». З яго прыходам сюды паявіліся і новыя пілы ў пілараме. Для калгаса як быццам бы знаходка. Але аказалася, што тыя пілы ўкрадзены з малога прадпрыемства «Мэбельшчык». І каштуюць яны нямала – дзесяць мільёнаў рублёў.

Па факту крадзяжу ўзбуджана крымінальная справа. Вядзецца следства.

*А. ГЛУШЭНЯ,*
*начальнік крымінальнага вышуку Івацэвіцкага райаддзела міліцыі.*

ПРОИЗВОДСТВЕННО-КОММЕРЧЕСКАЯ
ФИРМА
Аист
ОПТОВАЯ И РОЗНИЧНАЯ ТОРГОВЛЯ
- продуктами питания,
- спиртными напитками,
- товарами народного потребления,
- нефтепродуктами.

МЫ ЖДЁМ ВАС!

г. БАРАНОВИЧИ,
ул. Брестская, 93.
Тел./факс: 5-40-14, 5-20-77

**ПАДПІСКА — 98**

**Падпісацца на "Газету для вас" на другі квартал гэтага года можна ў любым аддзяленні сувязі Івацэвіцкага, Баранавіцкага і Бярозаўскага раёнаў да 25 сакавіка.**

**"Газета для вас" выходзіць два разы на тыдзень: у сераду і суботу.**

**Кошт падпіскі:**
- **8.000 рублёў на месяц,**
- **на два месяцы —16.000 рублёў,**
- **на квартал — 24.000 рублёў.**

**НАШ ПАДПІСНЫ ІНДЭКС 63834**

**ПРОДАЮ** нутрии, сейф размером 70х54 см. Телефон в Ивацевичском районе **33-7-10**.

**ЧАСТНЫЕ ОБЪЯВЛЕНИЯ**

**ПРОДАЁМ** деревянный дом, крытый черепицей, в д. Рацькевичи Ивацевичского района. Есть приусадебный участок (11 соток). Телефон в Ивацевичах **2-25-19**. Звоните, пожалуйста, после 19.00.

**ПРОДАЮТСЯ** четырехкомнатная квартира, бетономешалка, котел КЧМ с автоматикой, шланг для воды (ø 22,4, 50 м), скрипка 3/4, рама верандная (15х2), кульман, шкурки нутрий и памятник из черного гранита. Телефон в Ивацевичах **2-33-92**.

**ПРОДАЕТСЯ** 3-комнатная квартира в двухэтажном коттедже в д. Бытень Ивацевичского района. Имеются хозпостройки и огород. Телефон в Ивацевичском районе **33-9-57** и **33-6-00**.

Газета выдаецца на беларускай і рускай мовах. Набіраецца ў Івацэвічах, друкуецца ў Баранавіцкай друкарні (г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80). Выходзіць два разы на тыдзень: у сераду і суботу.
Фармат 420х300 мм. Аб'ём — 1 друк. аркуш.
Падпісана да друку 17 лютага ў 9.00.

Заснавальнік: рэдакцыя "Газеты для вас"
Газета зарэгістравана ў Дзяржаўным камітэце РБ па друку. Пасведчанне № 694.

РЭДАКТАР ЛІДЗІЯ ЦАЛУЙКА.
НАШ АДРАС: рэдакцыя "Газеты для вас".
вул. Дзяржынскага, 30, 225250, г.Івацэвічы.
Тэлефон: 8 ( 245) 2-12-29.

Рукапісы і здымкі не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца. Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні і выказванні могуць не супадаць з пунктам гледжання рэдакцыі і не накладваюць на яе ніякіх абавязацельстваў. Пры передрукоўванні спасылка на нашу газету абавязковая.

*Тыраж 1080.*
*Заказ 419.*



© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020